## Уваскрашэне нацыі!

Цярпеньне, сьмерць і Уваскрашэньне Хрыстова ёсьць ня толькі гістарычным фактам, але і сімвалам сутнасьці і сэнсу для сусьветнае гісторыі. Яны сімвалізуюць змаганьне дабра са злом. Зь якімі маленькімі сіламі даводзіцца часам дабру выступаць супраць зла, а ўсё ж урэшце, насуперак наяўнасьці фізічных магчымасьцяў, насуперак усялякім матэрыялістычным разьлікам, дабро заўсёды перамагае! Ці даўно апошнім разам у 60-х гадах хавалі нашу мову, даючы ёй на дажываньне ня болей, як 20 гадоў. І што ж? Тэрмін прайшоў, а мова жыве. І будзе жыць!

Хараство і веліч, ідэі дабра ўзмацняюць шэрагі нешматлікіх на пачатку ягоных носьбітаў, якія запаляюць і цягнуць нарэшце за сабою народныя масы.

Для нас, беларусаў, Зьмёртвыхустаньне (Уваскрасеньне) Езуса Хрыстуса сімвалізуе сабою змаганьне нашага народу за сваё шчасьце і нацыянальную справядлівасьць. За сваю волю, нацыянальную культуру, звычаі ён вядзе ўпартую барацьбу ўжо з даўніх часоў. Было, што часова перамагалі варожыя сілы, і гінулі лепшыя змагары, але ідэя нацыянальнай вечнасьці заставалася заўсёды жывой. І таму Вялікдзень ёсьць для нас штогадовым напамінам адвечнага жыцьцёвага закону, што дабро заўсёды перамагае, а зло, раней ці пазьней, гіне. Праўда на зямлі пераможа, і ніхто ня мае моцы ёй у гэтым перашкодзіць!

## Сьвятар і паэт

Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч) беларускі паэт і ксёндз нарадзіўся ў вёсцы Барані Сьвянцянскага павету 10 лістапада 1890 года ў сям'і сялянаў. Да гадоў дзесяці, г. зн. да сканчэньня пачатковай школы, прайшоў малады лірнік усе беды і журбы сялянскага дзіцяці. Вялікі ўплыў на яго разьвіцьцё зрабілі бабуліны казкі, якія прышлі і супакойвалі душу будучага беларускага песьняра. Бацькі аддаюць малога Кастуся ў навуку, і ў 1905 годзе ён скончыў школу ў Сьвянцянах.

З маленства Кастусь чуў у сабе покліч да духоўнага стану. Духоўнае жыцьцё выдавалася яму найбольш адпаведным, і ён апынуўся ў духоўнай семінарыі ў Вільні. Там ён, чытаючы “Нашу Ніву”, захапіўся беларускім адраджэнскім рухам. У гэтым часе даслаў Сваяк у рэдакцыю віленскай газэты “Беларус” першыя свае вершы і распачаў працу па разьвіцьці беларускае нацыянальнае сьвядомасьці. Увесну 1915 года ён быў пасьвечаны на ксяндза ў Петраградзе. Першыя крокі пастырскай працы Сваяка былі ў Камаях Сьвянцянскага павету. Неўзабаве за нямецкай акупацыяй ён пераехаў у сваю родную парафію ў Клюшчаны , дзе прабыў год і дзе ня мала палажыў працы сярод моладзі, арганізуючы і ўзгадоўваючы яе як з боку рэлігійна-маральнага, так і беларускага нацыянальнага. У хуткім часе духоўныя ўлады прызначаюць Сваяка вікарым у Карыцін (Горадзеншчына), дзе ён прабыў да вясны 1918 года. Увосень1920 года Сваяк прызначаны на пробашча ў Засьвір. Ужо тады ён моцна хварэў на сухоты. У гэтым самым часе давялося яму перанесьці нямала прыкрасьці і трывогі ад адміністрацыйных уладаў. Канец 1925 і пачатак 1926 гадоў Сваяк прабыў у Закапаным. Але здароўе ягонае было зруйнаванае дарэшты. У астатніх сваіх лістах да ксяндза Адама Станкевіча ён казаў, каб “сярод сваіх мог дажыць кароткі свой дзянёк” і каб на ім “не было дзярмо чужое”.

6 траўня 1926 года, як сьвечка на аўтары мук і цярпеньня, згас ксёндз Кастусь Стэповіч, пясьняр беларускі, у творах сваіх вядомы пад прозьвішчам Казімір Сваяк. Пахаваны ён у Вільні на могілках Росы. К. Сваяк быў вельмі таленавіты, адметны і цікавы паэт і філосаф, але з прычыны свайго сьвятарства ня мае прызнаньня ў сёньняшняй афіцыйнай крытыцы і літаратуразнаўстве. Ягоныя вершы нідзе не друкуюцца, бо тады як жа з міфам пра ксяндзоў-невукаў. Не стае сумленьня і сьмеласьці сказаць, што сярод іх былі самыя

лепшыя і адукаваныя сыны Беларусі, якія за свой народ, за Бацькаўшчыну былі гатовыя аддаць жыцьцё.

Казімір Сваяк пакінуў па сабе некалькі кніжак. Лірычная споведзь-гісторыя свайго жыцьця – “Дзея маёй мысьлі, сэрца і волі” – выйшла ўжо пасьля яго сьмерці ў 1932 годзе ў Вільні ў выдаведзтве “Хрысьціянская думка”. Ксёндз Кастусь Стэповіч перакладаў таксама рэлігійныя творы і пацеры на беларускую мову з лацінкі. Такім чынам двойчы выйшла (апошні раз у 1934 годзе ў Беларускім каталіцкім выдаведзтве ў Вільні) кніжка для набажэнства беларусаў-каталікоў “Голас Душы”.

Друкуем два вершыкі Казіміра Сваяка:

## БРАТУ НАСТАЎНІКУ

Ці ў долі, ці ў няволі,
Не гаруй, брат, аніколі:
Даў Бог хлеба, дасьць і неба,
Дасьць усеньня, чаго трэба.
Не сумуй, хоць льюцца сьлёзы,
Будзь і сьмелы, і цьвярозы;
Вер, што Беларусь устане,
Зьгіне хітрых панаваньне.
Духам глянь кругом – наўкола:
Закрасуе наша школа;
Роднай мовай, родным чынам
Ажывець наш бедачына.

## ГІМН РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Зямліца прошласьці ціхой,
Крывавай сьпісана рукой,
Айчына-Маці-Беларусь,
Цяжкі лёс твой.

Паклон з трудом Тваёй дружбе,
Паклон за волю барацьбе,
Айчына-Маці-Беларусь,
Паклон Табе.

Жалобна плача песьнь Твая
І Бога моліць сьлёзная,
Айчына-Маці-Беларусь,
Ты родная.

Ідзе вось ясная пара,
Праўду сьвеціць нам зара,
Айчына-Маці-Беларусь,
Гарой, Жыва!

У 1990 годзе споўніцца 100 гадоў з дня нараджэньня Кастуся Стэповіча, нашага слаўнага паэта і сьвятара.

Мікола К-ч

## ФАРА ВІТАЎТА

З найстаражытнейшых бажніц у Гародні лічыцца касьцёл Найсьвяцейшай Марыі Панны – Маткі Боскай, або Фара Вітаўта. Уфундаваны ён быў у канцы XIV стагоддзя (1392 г.) вялікім князем Вітаўтам і знаходзіўся на зьбегу вуліцы Замкавай і пляцу Баторага. Каралева Бона ў 1551 годзе касьцёл той грунтоўна аднавіла і перабудавала ў стылі позьняй готыкі. Пазьней бажніца была моцна пашкоджана пажарам пры Станіславе Аўгусьце (1792 г.) і ў выніку перабудовы набыла некаторыя рысы неакласіцызму (эпохі Станіслава Аўгуста). Пасьля апошняга пажару (1892 г.) фара была цалкам перабудавана ў стылі расейскага праваслаўя, што вельмі зьніжала яе архітэктурныя вартасьці. У руках праваслаўнага духавенства яна знаходзілася да 1910 года. У 1922 годзе, калі Гародня ўваходзіла ў склад Польшчы, распачалася рэстаўрацыйная праца па ўзнаўленьні касьцёла. І трэба зазначыць, што па заканчэньні рэстаўрацыі ён зноў набыў свой пачатковы выгляд. З 1925 па 1939 гады быў дзейны.

Падчас Другой Сусьветнай вайны касьцёл ня быў пашкоджаны. Але ў 1966 годзе яго ўзарвалі. Зараз на тым месцы – пустэча. А гэта ж быў найстаражытнейшы касьцёл па ўсёй Беларусі. З фарай Вітаўта зьвязана шмат цікавых паданьняў і легендаў. Сюды сьв. Казімір, падчас свайго знаходжаньня ў Гародні, позьняй ноччу выходзіў босы на малітву. А калі дзьверы касьцёла былі замкнёныя, тады ён кленчыў і цалаваў прыступкі, парог і касьцельныя дзьверы.

У змаганьні з рэлігіяй бязбожнікамі была зьнішчана адна з нацыянальных сьвятыняў беларусаў. Ды ўсё бачыць вока Госпадняе, і зло не застанецца непакаранае.

(Погляд)



Фарны касьцёл Вітаўта. Передваеннае фота

## СЬВЯТЫ КАЗІМІР-КАРАЛЕВІЧ ВЫЗНАЎЦА

Людзі, каторыя самі ня вераць у Бога і стараюцца шырыць сваё недаверства сярод іншых, насамперад кажуць, што Бога людзі духоўныя выдумалі, што калі чалавек хоча быць вучоным, разумным, сучасным, то павінны перш-наперш адрачыся і Бога, і ўсяго, што зь верай у яго злучана.

Такі погляд у іх зусім фальшывы. Сярод каталіцкіх сьвятых ёсьць шмат вучоных і разумных, як ні адзін з самазваных мудрацоў-недаверкаў.

За прыкладам сьвятых павінны ісьці і мы ўсе, бо ў сьвятых усе роўныя, і побач з папамі, біскупамі, каралямі, вучонымі – бачым у каталіцкім касьцёле і людзей простых, як сьвятая Зіта або сьвяты Ісідор.

Дык хаця ўсе сьвятыя заахвочваюць нас да насьледаваньня іх цнотаў, усё ж бліжэйшымі да нас павінны быць тыя, хто жыў некалі між нас, на нашай зямлі. Такім сьвятым нашым ёсьць сьвяты каралевіч Казімір; кажу “нашым”, бо жыў з нашымі прадзедамі, успамінаў, любіў наш беларускі народ, маліўся за яго ды лічыцца патронам нашага краю.

Нарадзіўся сьвяты Казімір на Вавелю ў каралеўскім замку, сын караля польскага і вялікага князя беларуска-літоўскага Казіміра IV, у 1498 годзе. Большую частку жыцьця свайго правёў у Вільні – даўняй сталіцы Беларусі, – ды ў Гародні. Гадаваны сваёй набожнай маткай у сьвятой каталіцкай веры, сьвяты Каралевіч змалку залюбаваў усё паважнае, усё, што гаварыла пра Бога, пра жыцьцё вечнае.

Падросшы, пазнаўшы навуку людзкую ды навуку Божую, пераканаўся ў марнасьці славы, каралеўскіх гонараў. Маладым і нявінным сваім сэрцам і душой – зьвярнуўся суцэльна да Бога, да Маці Божай, бо толькі ў злучнасьці зь імі бачыў мэту свайго земскага жыцьця. Адкінуў каралеўскае дагаджаньне сабе, спаў на цьвёрдай зямлі, насіў грубую кашулю з конскіх валасоў ды заўсёды пасьціў, аддаючы сваю яду бедным, а да ўсяго гэтага яшчэ вельмі маліўся; маліўся ня толькі ўдзень, маючы вольныя ад працы часіны, але і ўначы, лежачы крыжам перад замкнёнымі дзьвярыма бажніцы.

Малітва была першай і найвялікшай яго цнотай. Другой вялікай зоркай у яго духоўнай сьвятой кароне была ахвярнасьць. Не было чалавека, якому б сьвяты Казімір не ўспамог; было, што раздаўшы ўсё, аддаваў беднаму і свой каралеўскі плашч, мяняючы яго на жабрацкую сярмягу.

Трэцьцяю вялікаю цнотаю сьвятога Казіміра была чысьціня душы. Хочучы быць мілым Найсьвяцейшай Марыі-Дзеве, шлюбаваў ён, што ніколі не падумае, не скажа, ня зробіць нічога брыдкага і – чыстым і нявінным пражыў аж да самай сьмерці. “Лепей сьмерць, чым грэх!” – адказваў тым, што намаўлялі яго да злога.

Ясьнеючы гэтымі ды іншымі цнотамі, сьвяты Казімір памёр 4.III. 1484 г., пахаваны ў Вільні ў Катэдральным касьцёле сьв. Станіслава. Да ліку сьвятых залічаны быў папам Ляонам X-м у 1521 г.

Так скончылася жыцьцё яго зямное і пачалося вечнае.

Вялікага патрона ды апекуна Беларусі маем у небе, дык памятайма пра гэта заўсёды.

(З надрукаванага)

## Сьвяты мучанік
## Мэркуры Смаленскі

Асоба сьвятога мучаніка Мэркурыя Смаленскага ёсьць найбольш загадкавую з усіх беларускіх і агулам усіх славянскіх сьвятых. Справа ў тым, што не захавалася ягонага жыцьцяпісу, але ў Смаленску бытавалі аб ім вусныя пераказы, якія зь цягам часу дапаўняліся фантастычнымі ўпрыгожваньнямі. І на аснове тых ужо далёкіх гістарычнае праўды пераказаў дзесь на пачатку XVI-га і ў XVII-м стагоддзях напісана дзьве легенды,

якія ў далейшым атрымалі розныя пераапрацоўкі і дайшлі да нашых часоў у пяці даволі розных рэдакцыях і ў 37 сьпісках. Гэта знак, што асоба сьвятога была папулярнаю.

Сваею арыгінальнасьцю легэнды зацікавілі ў палавіне мінулага стагоддзя некаторых гісторыкаў, і яны стараліся шляхам прыраўнаньняў зь іншымі дакумантамі і рознымі дагадкамі ўстанавіць гістарычную аснову легенды. Пачын у гэтым кірунку даў Буслаеў (Буслаевъ О. И. Смоленская легенда о св. Меркуріи. Москва, 1859), выклікаючы гэтаю працаю шырокі розгалас у кругох дасьледнікаў старадаўнае гісторыі.

А на пачатку гэтага стагоддзя гісторыкі зноў загаварылі аб св. Мэркурыю. Яму шмат увагі прысьвяціў у сваіх досьледах Каллубоўскі (А. Каллубовскій. Очеркі поісторіі древне-русской литературы житій святыхъ. Варшава, 1902). На жаль, ён дайшоў да высноўку, што ”Мэркуры Смаленскі хутчэй зьяўляецца героем літаратурнае легенды, чым гістарычнаю асобаю”. (с. 74).

Такі высновак адносна асобы, якое сьвятыя астанкі захоўваліся ў Смаленску за 1611 г. і якая была ўпісана ў сьпіскі сьвятых Праваслаўнае Царквы – быў паважным выклікам для царкоўных гісторыкаў. Аднак адказ на той выклік выявіўся няскора і меў шмат слабых мейсцаў. Гэта была спроба ачысьціць гістарычную праўду адносна сьв. Мэркурыя ад легендарных дадаткаў. (П. Минделеевъ. Повесть о Меркуріи Смоленскомъ и былевой эпосъ. ”Сборникъ статей Д. А. Корсакова”. Казань, 1913). На жаль, гэтая спроба зроблена вельмі адвольна і часам зусім неабгрунтавана. Магчыма, што якраз гэтая неабгрунтаванасьць выклікала Беляева напісаць вялікую рэцэнзію, у якой падаў дакладную гісторыю ўсіх ведамых рэдакцыяў і сьпіскаў мэркурыявых легендаў (Бъленкій Л. Т. Къ литературной исторіи повести о Меркуріи Смоленскомъ. ”Журн. Мин. Нар. Просв.”, 1914. Нр.12). Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што ў савецкіх часох, у 1922 г., Бялецкі вярнуўся зноў да гэтае ж тэмы.

Ня будзем пералічаць далейшых дасьледных і дыскусійных артыкулаў на гэтую тэму, бо, на жаль, яны ня ўнесьлі амаль нічога новага адносна асобы Сьвятога, а займаліся перадусім літаратурнымі крыніцамі легенды.

Вось-жа, маючы перад сабой такія цяжкасьці, якія да гэтага часу дарэмна стараліся развязаць дасьледнікі старадаўняга мінулага Царквы, цяжка напісаць больш-менш ясны жыцьцяпіс сьв. Мэркурыя. Аднак, паколькі ягоная асоба ёсьць такою вынятковаю, варта зь ёю зазнаёміцца бліжэй хоць бы з тых лягендаў, якія аб ёй створаны. У асноўным будзем трымацца легенды, запісанае ў Чэты-Мінэях (”Великія Минеи Четьи, собранные всерос. митр. Макаріем”. Москва, 1910, Ноябрь. С. 3297-3306).

* * *

Радзіўся Мэркуры ў Італіі прыблізна на пачатку XIII ст., праўдападобна, у самым Рыме ў сям’і, блізкай да правячых кругоў, зразумела, – каталіцкай. У некаторых сьпісках выразна кажэцца, што “родам быў рымлянін”. Аб ягонай асобе гаворыцца ўсяго, што ён быў адважны і высокага росту. Зь невядомых прычынаў ён у юнацкім веку прыйшоў у Смаленск і прыстаў да князя на жаўнерскую службу. Зусім магчыма, што ён ужо ў Рыме быў жаўнерам, бо-ж тады быў час крыжовых паходаў. На службе азначаўся акуратным выкананьнем усіх сваіх абавязкаў і шчыраю пабожнасьцю. Ня раз ён маліўся да позьняе ночы. Захоўваў цялесную чыстасьць. У ягонай пабожнасьці паважнае мейсца займала Прэсьвятая Дзева Марыя, якое цудатворная ікона Смаленскае Годзігітрыі (вельмі падобная на славутае рымскае іконы “Салюс Пополі Романі”), прыцягвала шматлікіх малельнікаў у катэдральны сабор.

Калі татарскі хан Батый, заняўшы і моцна спляжыўшы Кіеў і Маскву, накіраваўся на Смаленск – так кажацца ва ўсіх легендах – плянуючы напасьці на яго тайна, дык смаленцы зьвярнуліся з малітвамі да свае нябеснае заступніцы. Мэркуры ня менш за смаленцаў перажываў долю краю і шчыра маліўся да Господняга Крыжа за мір.

Бог паслухаў шчырыя малітвы і паслаў збаўленьне для гораду праз заступніцтва Багародзіцы. Яна прамовіла ў саборы ад свае цудатворнае іконы да панамара, ці, інакш кажучы, да царкоўнага старасты: “Ідзі хутка на Падольле да майго раба Мэркурыя – і двор, сказала яму – ды перакажы яму, што яго кліча Гаспажа ў ва ўсім ваенным азбраеньні”. Хоць гэта была позьняя ноч, царкоўны стараста зара-жа пайшоў у азначаную Багародзіцаю часьць гораду, знайшоў Мэркурыя: ён, укленчыўшы на двары, маліўся з узьнятымі да неба рукамі, і пераказаў яму загад Багародзіцы. У гэтым мейсцы легенды маюць паважныя разьбежнасьці, бо ў адных гаворыцца так, як пераказана тут, а ў іншых дадаецца, што Мэркурыю быў аб’яўлены загад Багародзіцы ўжо перад тым, як прыйшоў да яго царкоўны стараста, таму стараста засьпеў яго ўва ўсім ваенным узбраеньні. Але ў такім выпадку невядома, нашто было патрэбнае тое пасольства царкоўнага старасты.

Далей гаворыцца ўва ўсіх легендах, што яны абодва прыйшлі ў царкву і там убачылі перад іконаю запаленую сьвечку. Мэркуры кінуўся на калені і маліўся перад іконаю шчыра, да сьлёз. Праз колькі хвілін пачуўся голас Багародзіцы ад сьвятое іконы. Яна пасылала Мэркурыя супраць татараў, дакладна азначала мейсца, куды ён павінен ісьці – Доўгі Мост (сёньня вёска Даўгамосьце), абяцала яму сваю дапамогу і ў канцы мучаніцкую карону. Наогул, у гэтым мейсцы легенды робяць з Багародзіцы вельмі-ж гаваркую кабету і адносна татараў даволі сварлівую.

Мэркуры выконвае загад Багародзіцы. Ён адразу выбіраецца ў дарогу. Паводле адных легендаў, ён ідзе, паводле другіх – едзе да Доўгамосьця (гэта якіх 20 км ад Смаленску), там яшчэ раз зьвярнуўся да Багародзіцы з кароткаю малітваю і накіраваўся ў татарскі лягер. Незаўважна прайшоў вайсковыя старожы, забіў велікана, што наводзіў на ўсіх страх сваею сілаю і жэрстокасьцю, забіў так-жа шмат татарскіх начальнікаў і вярнуўся назад да Доўгамосьця, каб вымаліць сабе мучаніцкі вянок.

Калі на золку зары прачнуліся татары і ўбачылі забітага велікана і шматлікіх сваіх начальнікаў, кінуліся ў пагоню за невядомым ваякам. Мэркуры стрэнуў іх адважна ды так пасек, што яны ў перапалоху кінуліся наўцёкі. Толькі якісьці адзін люты татарын, а ў некаторых легендах – сын забітага велікана, у іншых дык гэта сам анёл – адсек галаву Мэркурыю.

Батый, убачыўшы вялікія страты ў сваім войску, ня меў адвагі наступаць на Смаленск і падаўся назад.

Тут зноў легенды на розны лад гавораць аб ролі царкоўнага старасты ў абвешчаньні перамогі.

* * *

Мэркурыя ўрачыста пахавалі ў саборнай царкве. Некаторыя арыгіналы дадаюць, што ён яшчэ цудоўным спосабам пераказаў праз царкоўнага старасту, каб над ягоным гробам павесілі ягонае аружжа, бо яно будзе на прышласьць служыць Смаленску цудоўнаю агарозаю ад ворагаў.

Ува ўсіх мэркурыевых легендах ёсьць шмат паэтычных дадаткаў і разьвіта вельмі моцна нацыянальнае самапачуцьцё.

Год сьмерці сьв. Мэркурыя прымаецца 1238, відаць, узяты зь летапісу як час нападу Батыя на Кіеў. А дзень сьмерці прымаецца той самы, у якім сьвяткуецца памяць вялікамучаніка Мэркурыя Касарэйскага (з III-га ст.) – 24 лістапада.

Акрамя тых супярэчнасьцяў у легендах, аб якіх ужо ўспаміналася прынагодна, яшчэ неабходна заўважыць, што ў іх ёсьць паважная супярэчнасьць гістарычным фактам. Гісторыя ня ведае паходу Батыя на Смаленск. Летапісы вельмі дакладна апісваюць паход Батыя, але зусім не ўспамінаюць аб тым, каб ён падыходзіў да Смаленску.

Мэркурыявы легенды створаны аж 300 гадоў пасьля сьмерці сьвятога, дык ня дзіва, што яны маюць шмат фантастычных дадаткаў. Асноваю да ўтварэньня легендаў, безумоўна,

мусіў служыць мяйсцовы вусны пераказ аб Мэркурыю, які меў зерне гістарычнай праўды, бо-ж доўгія стагоддзі былі ў вялікай пашане ягоныя мошчы ў Смаленску і яшчэ ў XVI-м ст. смаленцы ведалі “мейсца крыві”, дзе быў забіты Мэркуры.

Фармаваліся ягоныя легенды на аснове заходніх уплываў аб сьвятых, якія несьлі сваю адсечаную галаву (сьв. Дзяніс Пармскі і інш.), запазычаючы некаторыя падзеі з “жыцьця Аляксея чалавека Божага”, легенды аб Дыянісію Арэапагіце, а так-жа, бяручы шмат з усходніх легендаў: аб жыцьці і сьмерці вялікамучаніка Мэркурыя Кесарыйскага, які меў забіць Юліяна Адступніка із легенды аб забойстве Батыя – паколькі ўсе гэтыя легенды былі ведамыя ў Самаленску.

Ад калі пачалі лічыць Мяркурыя сьвятым, няма ніякіх вестак, бо не захавалася ніякага акту ў гэтай справе, ані нават ніякага ўспаміну, калі гэта адбылося. Саборы Праваслаўнае Царквы, якія займаліся справамі кананізацыі “рускіх сьвятых”, аб сьвятым Мэркурыю не ўспамінаюць. У сьвятцах ягонае імя зьяўляецца ў канцы XV ст.

Служба сьв. Мэркурыю мае аж сем вядомых сьпіскаў. Найстарэйшая служба напісана ў часе, калі смаленскім япіскапам быў Варсафоній (1508-1514) і вельмі праўдападобна, што гэта сам Варсафоній напісаў тую службу на аснове першых легендаў аб сьвятым.

Сьвятыя астанкі Мэркурыя мелі перахоўвацца ў смаленскім Аўраамавым манастыры, дзе ў ягонае імя была асьвечана царква. Праўда, часам ягоныя сьвятыя астанкі блыталі з астанкамі прэпадобнага Мэркурыя, так жа смаленскага сьвятога і з таго ж XIII ст., якія перахоўваліся ў Кіеве. Жалезны шалом і абутак сьв. Мэркурыя ад Першае Сусьветнай вайны перахоўваліся ў саборнай рызьніцы.

Вялікая колькасьць легендаў аб сьв. Мучаніку Мэркурыю вымоўна сьведчаць аб ягонай вялікай папулярнасьці ў народзе. Толькі патрэбна яшчэ уважлівых студыяў, каб асоба гэтага мучаніка зазьзяла ў поўным сьвятле, Богу на славу і людзтву на карысьць.

а. Л. Гарошка

(Перадрук з часопіса “Божым шляхам” з захаваньнем правапісу арыгінала.)



Рэльефны абразок “Сьвятая Эўфрасіньня”, Зроблены за мяжой

Мар’ян В.

## УСПАМІНЫ ЗЬ НЯДАЎНЯЙ МІНУЎШЧЫНЫ

У 70-х гадах, калі паўсюдна бурылі стары Менск і зьнішчалі нашую спадчыну, пераехаў Саюз пісьменьнікаў БССР у новы будынак – Дом літаратара. Стары гістарычны будынак ля тэатра Янкі Купалы, у якім месьціўся Саюз перад гэтым і ў якім некалі, падчас нямецкай акупацыі горада партызаны ўзарвалі на міне гаўляйтара Вільгельмі Кубэ, стары гэты будынак зьнесьлі, каб не займаў прасторы перад гмахам ЦК КПБ. Здаецца, ніхто тады за гэты помнік не ўступіўся. У Доме літаратара якраз разьмяркоўвалі кабінеты сакратарам саюза. Не да гэтага было.

Тады, у 70-х гадах, Саюз пісьменьнікаў БССР інтэнсіўна разбэшчваўся бюракратызмам. Чыноўніцтва адкрыта падкуплівала і перакуплівала пасрэдных і нават таленавітых майстроў пяра, спакушала іх матэрыяльным дабрабытам, пасадамі, узнагародамі, перспэктывай публікацый алілуйскай хлусьні і пустазвонства. У гэты пэрыяд набрала моц у пісьменьніцкім асяроддзі агрэсіўная шэрасьць, а сам Дом літаратара ператварыўся ў чыноўніцкі асяродак.

У сярэдзіне мінулага дзесяцігоддзя мне зрэдку даводзілася быць у тым доме. Трапіць “іншаму” ў Саюз пісьменьнікаў было тады ня так проста. Калі ўваходзіў, справа была невялікая службовая вопратня, тэлефоны, сігнальны пульт, сядзеў міліцыянер і абавязкова адна-дзьве кабеты гадоў пад 50 з хамскім выглядам і манерамі, па якіх адразу пазнаеш расеек, супрацоўніц КДБ. Яны аглядалі наведніка з падазрэньнем і пыталіся: “Вы к каму?”

На другім паверсе ў файе таўкліся часам пісьменьнікі ці выходзіў пакурыць са свайго кабінету які-небудзь сакратар, пагаманіць ад суму на беларуска-расійскай трасянцы. Мова беларуская паступова забывалася ў гэтым доме. Поўна тут было нейкіх дамачак, баб, сакратарак, бібліятэкарак, машыністак, шмат розных адміністратараў з палкоўніцкімі каркамі і чырвонымі тварамі. Усе яны стваралі тут дружны расейскі галас і шум у гэтых сьценах: трымаліся, як у сябе дома, на беларускую гаворку рэагавалі з маўклівай нянавісьцю. “Здрасте”, – кажуць на “добры дзень”.

Поўна было казённага “жаночага персаналу ў прыёмных “танкаў” і “шамякіных”, якія (кабеты, значыць) слоўца беларускага ня скажуць, хоць ты зь імі паўдня гавары. Сакратары і ўвогуле саноўныя пісьменьнікі адчувалі сябе ў гэтай задушлівай атмасфэры, як мне падалося, зусім добра, паводзілі сябе, як вялікія начальнікі.

Тады, наколькі мне вядома, ніводны сын і ніводная дачка пісьменьніцкіх саноўнікаў не размаўлялі па-беларуску, не ўжывалі роднай мовы ў сям’і. Мяркую, што і цяпер гэтак. Быў я тады неяк на афіцыйным літаратурным вечары, пасьвечаным памяці Аркадзя Куляшова. Ягоная дачка, жонка, сваякі выступалі і гаварылі толькі па-расейску. У тыя часы ў Доме літаратара нават у паветры адчувалася атрута духоўнага маразму і нацыянальнай дэградацыі.

У такіх умовах у 1976 годзе адбываўся VII зьезд пісьменьнікаў. Тады на зьезьдзе распаўсюдзіўся нейкі аддрукаваны на машынцы ліст аб ратаваньні мовы, падпісаны Мацеем Бурачком і напісаны ў ягоным стылі. Пазьней у рукі мне трапілася адозва да зьезда, падпісаная асобай ня менш гераічнай у нашым пакутным і слаўным пантэоне – Тадэвушам Рэйтанам. Прапаную тэкст гэтай адозвы.

## Адозва да зьезда пісьменьнікаў Беларусі
## (Менск. 1976 г.)

“Не пакідайце ж мовы нашай
Беларускай, каб ня ўмерлі.”
*Францішак Багушэвіч*

Б е л а р у с к і я п і с ь м е н ь і к і ! Наша дарагая Бацькаўшчына, наша старажытная і несьмяротная, наша родная мова, наш народ, мы ўсе, беларусы, перажываем страшны час нашай гісторыі. Ні 1794, ні 1830, ні 1863, ні ліхалецьце XIX стагоддзя, ні 1930, ні 1937 не параўнальныя. Як пад кулямётамі, як у вагні масавых экзекуцый, як у брацкіх магілах 1941-44-га гінуў кожны чацьвёрты беларус, гінуў цялесна, каб у памяці народнай уваскрэснуць навекі ў славе, так цяпер, у 1970-х, пад акапаліптычнымі гусеніцамі чыноўніцкага “прагрэсу”, які Вам загадана ўслаўляць, гіне духоўна кожны першы.

Некаторыя патрабуюць дакладнай статыстыкі русіфікацыі, лічбаў шавінізму, працэнтаў дэнацыянальзацыі і гвалту. Тады б, здаецца, гаварылі доказна, з бухгалтарскай дзелавітасьцю, лакейскай сьмеласьцю, хітра і разумна.

“Лысагорцы!” – скажам такім, – на неба гляньце, яно блакітнае! Зірніце ў вокны сваіх кабінетаў, расплюшчыце вочы, паслухайце! Дзе наша мова?! У інстытутах?! У школах?! Ні ў водным беларускім горадзе няма болей беларускай школы. Іх зачынілі. Беларускіх школ з кожным годам меншае на вёсцы. Іх зачыняюць асьцярожна, спакваля...

Радуйцеся, Мікалай першы і Мікалай апошні, пан Мураўёў і пані “единая, неделимая и протчая”, сьпявайце пад сурдзінку белагвардзейскія трубы і шараманшчыкі, тапёры і словаблуды, слаўце тых, што “спасли Россию”. – На ўсіх скрыжаваньнях нашай Беларусі распусна і нахабна, патаемна і адкрыта рыпіць гэтая іхняя тапёрская музыка.

Што мы можам, чым кіруем і што маем? Нацыянальную эканоміку? Сельскую гаспадарку? Лясы, нафту, рабочую сілу? Аўтаномію культуры? Нацыянальную свабоду творчасьці, навукі, мастацтва? Нацыянальную асьвету, адукацыю, выхаваньне? Наша эканоміка – каланіяльная, прадуктамі нашай разьвітай сельскай гаспадаркі мы не распараджаемся, а працавіты наш селянін (“дурны мужык”), сёньняшні запрыгонены калгасьнік і сёньняшні рабочы нават не здагадваюцца, колькі легіёнаў ад гультайства і нуды там, “в России-матушке” прапівае працу яго рук і колькі збанкрутаваных палітычных авантур у Азіі, Афрыцы, Паўднёвай Амэрыцы, Еўропе аплаціў ён потам сваім і мазалём.

А ці задумваемся мы, чаму па колькасьці насельніцтва эксперыментальная рэспубліка наша не дасягнула даваеннага ўзроўню. Што, у нас не родзяцца дзеці?! Дзе зьнікае і куды плыве наша <u>галоўная вытворчая сіла нацыянальнай эканомікі – рабочыя рукі?</u> Туды ж, у “матушку”. На месца нашых мігрантаў, беларусаў прысылаюцца “со всей необъятной России”, сотнямі тысяч валяць сюды паміраць, сачыць і бэсьціць натоўп адстаўнікоў і розных спецыялістаў, шукальнікаў зямлі, дзе каўбасы паболей.

У нацыянальным мастацтве – зялёная вуліца толькі нацыянальнай прафанацыі. Наша гуманітарная навука дэбільная, а казённыя адэпты яе, стаўленьнікі і здраднікі, законьнікі і згоднікі, сокі, майстры дэмагогіі і даносаў, ашалелі ад страху перад прывідам “нацыяналізму”, перад сьвятлом гістарычнай праўды.

Нацыянальнай асьветы ў нас ужо няма. Нацыянальнай адукацыі не існуе. Нацыянальная культура ў загоне. Замест яе – прафанацыя і эрзац. Беларуская мова living рознымі спосабамі і хітрыкамі выганяецца адусюль. А там, дзе яна хоць крыху трымаецца (радыё, прэса), – там сьвядома замяняецца казённа-чыноўніцкім жаргонам, замешаным на расійскім сінтаксісе і кальках. Гэта палітыка. Тут існуюць табу і вета, якія маюць больш катэгарычную сілу, чым забаронены для ўжытку спіс беларускіх дзеячоў, складзены ў

Галоўліце. На гэтую садысцкую ідэю дэнацыяналізацыі беларускае мовы працуюць навукова-дасьледчыя інстытуты і ўніверсітэцкія кафедры.

Як жа дайшлі мы да такога жыцьця?! Як мы ваду п’ем і хлеб ядзім? Як у вочы глядзім? Азірнемся, дзе нашы мудрацы, дзе нашы пракрокі, правадыры і героі !? Хто мы цяпер і куды ідзем?! Як жа мы дажылі да такога стану, што вымушаны яшчэ даказваць, што мы – людзі !? Дакажы, што тваёй нацыі патрэбна яе нацыянальная мова. Дакажы, што гэта пытаньне нацыянальнай кампетэнцыі і нішто іншае. Дакажы, што ты гаспадар на сваёй зямлі. Дакажы, што гаспадар у сваёй хаце не пытаецца ў гасьцей, дзе яму сядзець. Дакажы і пацьвердзі. І знаходзяцца, што даказваюць, што “я” гэта “я”, а ня “ты”.

Якія патрэбны тут лічбы і працэнты, калі з нас зьдзіраюць скуру пад гром звышдэмагогіі, калі наш народ укрыжоўваюць пад салодкую атрутную музыку звышхлусьні. І наш народ разам з намі прымушаюць піць гэтую атруту з гэтай атрутнай студні.

Цяпер не XIX стагоддзе. Цяпер нас атручваюць пад выглядам прагрэсу. Да паслуг тэлебачаньне і асьвета, адукацыя і прэса, ідэалогія і прапаганда, эканоміка і горадабудаўніцтва, чыгункі і шасейныя дарогі, радыё і тэлеграф, авіяцыя і аўтобусы, агітацыя і эстрада, войска і спорт і да т. п. Усё гэта павінна быць прыладаю, сродкам нашага нацыянальнага жыцьця, а сталася – зброяй нястрымнай русіфікацыі, дэнацыяналізацыі і разлажэньня народа.

Калі косіць каса, то трава расьце зноў. Сьціналі галовы інсургентам – вырасталі сыны. Але бяда, калі не каса, а чэрві корань точаць, калі не касец, а агонь з-пад споду сухі тарфянік паліць, калі ня косяць, а паліваюць корань атрутнай вадкасьцю, і дрэва чэзьне, трава сохне. Вось дзе адрозьненьне русіфікацыі цяперашняй ад учарашняй. Яно ў выніках і ў абставінах. Вось дзе знак часу сёньняшняга. Калі ўсе ранейшыя русіфікацыі разьбіваліся аб стыхійную сілу нашага народнага духу, традыцый, жыцьцёвага ўкладу, то цяпер зброяй прагрэсу ў чыноўніцкіх, чужых руках метадычна разбураецца ня толькі мова, традыцыі і нацыянальная культура, але зьнішчаецца сам этнас.

Тут мала абвінавачваць наш так званы “урад” і галоўных ідэалагічных правіцеляў нашых, што навучаюць матэрыялізму і хлусьні, мала іх абвінавачваць у нацыянальнай здрадзе. Мы – інтэлігенцыя. І на нас місія адказнасьці за свае справы перад Бацькаўшчынай. Мы інтэлігенцыя – і на нас абавязак народнага прадстаўніцтва, на нас роля яго заступніцтва і яго асьветы. Мы гістарычна абавязаны перад народам і ўсёй нашай зямлёю. За занядбаньне абавязкаў гісторыя не даруе нам, як не даравала шляхце.

Саюз пісьменьнікаў цяпер адзіная ў Беларусі грамадзкая арганізацыя, дзе магчыма размова пра нацыянальныя праблемы і пра беларускую мову. Гэта і заканамерна, бо літаратура – перш за ўсё, слова. І паглядзіце, як заігрываюць з Вамі, цацкаюцца, купляюць і перапрадаюць, як засоньваюць ваша сумленьне дэмагогіяй і хлусьнёю, а самі адкрыта і бесцырымонна, падступнасьцю і гвалтам звужаюць моўную сферу вакол нашай літаратуры.

Рука здрайцы і прыблуды цягнецца да Вашага горла і з гідлівай ухмылкай вось-вось гатовы сарвацца з вуснаў падрыхтаваныя гугнявыя словы” “Для кого вы пишите, вас никто не читает, не панимает, зачем вы едите даром наш народный хлеб?” І Вам, як і цяпер, пакажуць на дурнога Саўку, што набраўся “истинно-русского” духу, і, натуральна, “против белорусского языка”. Вам прывядуць натоўпы блудных сыноў нашай Бацькаўшчыны, абалваненых імі і разбэшчаных, пакажуць на легіёны янычараў і мамалюкаў, выхаваных і атручаных у іхніх школах-душагубках, у войску і інстытутах, на нашай зямлі, за нашыя сродкі, пры нашай маўклівай згодзе, і скажуць: “Вось ваш народ, ён з намі, супраць вас”. І загадаюць, паказваючы на Вас: “Укрыжуйце іх!” Што і будзе зроблена пад сьмех прыблудаў. Будзьце пэўныя. Адурманены беларус умее нішчыць сваіх.

То якія ж патрэбны вам лічбы і працэнты, якія такія аргументы, калі размова павінна весьціся па сутнасьці, а не ў прыватнасьці, па справядлівасьці і па праве.

Таму не да розуму Вашага гэты зварот, не да логікі і нават не да сумленьня. Гэта ўсё ў Вас ёсьць! І ўсё Вы ведаеце – і лічбы, і працэнты. Гэтая адозва да Вашага ДУХУ.

Хай б'юцца нашы сэрцы ўсе разам для Бацькаўшчыны, а не для мамоны, для нашага народа, а не для ўласнай пыхі, для нашай сьветлай нацыянальнай духоўнай будучыні, а не для матэрыяльнага дабрабыту!

Пытаньне пра нашу беларускую мову, пра беларускую школу, пра беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы, пра нацыянальную асьвету і адукацыю, пра наша духоўнае нацыянальнае жыцьцё, пра нашу нацыянальную культуру павінна стаяць на зьезьдзе.

Народ наш яшчэ духоўна жывы і моцны, нягледзячы на адступнікаў і здрайцаў. Яны, здрайцы, – не прадукт нашага нацыянальнага жыцьця, а вынік трагедыі і хваробы, кароста, балячкі на здаровым целе. Прыйдзе час, і гэтыя блудныя дзеці вернуцца да ўлоньня шматпакутнай, сьвятой нашай, дарагой зямлі, і многія пакаюцца.

Памятайма, хай не ўпадзе на нас першародны грэх. Не пакрыйце сябе няславай. Мы – беларуская інтэлігенцыя. То хай кожны з нас зможа у канцы сказаць так, як Купала:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў зь цемры да сьвятла.

Тадэвуш Рэйтан
11 траўня 1976 г., Менск

Праз пэўныя прычыны адозва Т. Рэйтана, відаць, не была распаўсюджана на зьезьдзе. Прынамсі, чутак пра гэта не было. Сярод дэлегатаў разышоўся ліст ад Мацея Бурачка пра шанаваньне беларускай мовы. Аднак ён не атрымаў ніякага розгаласу сярод пісьменьнікаў. Той зьезд, у 1976 годзе, быў, бадай, самы "лакейскі" за ўсю гісторыю пасьля 1956 года.

Тым часам "Ліст Бурачка" нейкім чынам трапіў да студэнтаў, яго нават вывесілі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на стэндзе інфармацыі і аб'яў. Ліст неўзабаве садралі, тут жа сабралася экстранае паседжаньне рэктарата і партбюро. Абмяркоўвалі гэтае "надзвычайнае здарэньне". Найбольш усіх цікавіла, хто гэта мог напісаць такую "антисоветчину" і хто такі Мацей Бурачок. Выказвалі розныя меркаваньні. Нарэшце, калі ўсе здагадкі зайшлі ў тупік, выступіў, як распавядалі, сам рэктар Віктар Грамыка і сказаў: "В конце концов, кто бы ни был этот Бурачёк, ясно, что это негодяй похуже Солженицына".

Ніжэй падаю тэкст ліста ад Мацея Бурачка, распаўсюджанага сярод дэлегатаў.

## ШАНОЎНЫМ ЯГАМОСЬЦЯМ ПАНАМ ПІСЬМЕНЬНІКАМ БЕЛАРУСІ (Жупраны. Лета 1976-га, Траўня 11-га дня)

Браткі-пісьменьнікі мілыя, дзеці Зямлі-маткі Беларусі нашай! Мушу пагаварыць з Вамі трохі аб нашай бацькавай спрадвечнай мове.

Чытаў я ці мала старых папер і ксёнжак, па трыста, пяцьсот гадоў таму пісаных у зямлі нашай і мовай нашай чысьцюсенькай – і летапісы, і метрыкі, і Біблію Скарыны, і адзіны на ўсю Эўропу Статут наш слаўны сапежынскі...

... І думаў: Божа ж мой, Божа, што ж мы такія бяздольныя, што мову для нас сьвятую, Богам нам дадзеную, як і другім добрым людзям, так ужо самі пусьцілі на зьдзек. А

найперш, панэ нашы вялікія, што ўладу маючы, бараніць яе па закону павінны. Ды яны, паны гэтыя, людзі высокія, падобна той старасьвецкай шляхце нашай, якая пасьля Вуніі бацькоўскую веру мяняла на срэбнікі, першымі выракліся роднай мовы.

Дык цяпер ужо, браткі, нават ня тое. Бо і людцы нашы простыя, сьледам за панствам высокім, словам сваім грэбаваць пачалі, язык у роце выкручваць, каб не сказаць па-свойму. А чаму?

А таму, браткі, што ў гаворцы нашай спрадвечнай быццам больш і патрэбы няма. І адмаўляюць ёй, гаротнай, у жыцьцёвым праве на зямельцы нашай, і павыганялі ўжо яе зайздросьнікі і непрыяцелі з устаноў дзяржаўных і канцылярый судовых, і з нарад палітычных, і адусюль, адкуль толькі можна. І туляецца яна, бедная, сіроцінаю па чужых халодных кутох: сям-там у газэтах-часопісах, трошкі на радыё, ды ў трох тэатрыках беларускіх, што ледзьве ліпяць...

Ды й перакруцілі ж яе, перарабілі пад свой капыл розныя дабрадзеі нашы. Ужо й словы беларускія спрадвечныя заменены на расейскія, і так яна ўжо зьнявечана дзеля казённага яе ўжытку, што і не разважыш, па якому гавораць.

Школкі ж нашы беларускія паўсюдна на зямлі нашай перарабляюцца на расейскія, ды шпарка так, што ў местах ды мястэчках ніводнай ужо не засталося. А дзеткі нашы ня чуюць роднага слова а ні ў хаце ад бацькоў выкшталцоных, а ні ў садзе дзіцячым ад мамак і выхавацелек іхніх, ні ў школах тых перарobленых ад настаўнікаў, ні ў універсітэтах ад прахвостаў, дзе мову нашу родную, як не раўнуючы, мёртвую лаціну, гадзіну-дзьве на тыдзень ня хочучы выкладаюць.

А й памрэ беларус, то і надпіс на камені надмагільным па-расейску атрымае.

Браткі мілыя, пісьменьнікі! Хачу спытаць Вас цяпер, хто ж чытаць будзе тое, што Вы пішаце, ды праз дзясяткі гадоў, ці мо праз дваццаць? Ці ж патрэбны будуць каму зь беларусаў ксёнжачкі Вашы пекныя, у перакладах з расейскае мовы сьвет зваяваўшыя? Ды й Вы самі ўраз зь імі. Га?

Бо шмат было такіх народаў, што страцілі найпеш мову сваю, так як той чалавек перад скананьнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі.

Дык ратуйма ж мову нашу беларускую, каб ня ўмёрлі!

Мацей Бурачок

## Вяртаньне з маўчаньня

У лютым 1988 года выйшла з друку факсімільнае выданьне зборніка вершаў Алеся Гаруна “Матчын дар”, выдадзенага яшчэ ў 1918 годзе коштам Народнага Сакратарыяту Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта вялікая падзея. Вернуты з маўчаньня таленавіты, трагічнага лёсу паэт Бацькаўшчыны. У выхадных зьвестках пазначана, што тыраж кніжкі 10.000 экзэмпляраў. Але прайшло ўжо багата часу пасьля выхаду зборніка ў сьвет, а ў кнігарнях яго не відаць.

Зьмяшчаем верш Алеся Гаруна, які не ўвайшоў у кніжку, напісаны ім 12 кастрычніка 1918 года.

### Шлюб

Год за годам, дзень за днём, –
Усьцяж – гадзіну за гадзінай,
Паміж песьняй салаўінай
І агідных жабаў крэктам,
Выцьцём буры, ветру шэптам
І касы сьмяртэльным сьвістам,

У бляску полымя агністым
Мы да шлюбу свайго йдзем...
Мусіць, скора... Пэўна, блізка, –
Чую я ўжо гэты час,
Поўны шчасьця і пакрас –
Дзён парвецца нашых нізка,
Дзён, затрутых сольлю згуб –
І няпомныя былога,
Ўчуўшы голас горніх труб,
Пойдзем люба мы да Бога
Браць апошні, вечны шлюб.

## ЮДАВА ПОЛЕ

Над Ерусалімам спусьцілася страшная ноч – павесіўся Юда. У горах стагнаў вецер, усюды разьлілася непраглядная цем, цяжка стала ў паветры.

Людзі пахаваліся ў камяніцы, вярблюды хавалі галовы ў пясок, як бы чуючы, што скора падымецца гарачая бура – самум.

Юда павесіўся ў полі, купленым за 30 срэбнікаў, каторыя ўзяў за здраду. Калі абычны самаўбійца накладзе на сябе рукі, то цела яго хаваюць міласэрдныя людзі. Ня так было з Юдай – цела яго надарвалася пасярэдзіне, і ўсе вантробы зьвесіліся.

А бурлівая ноч яшчэ болей згусьцілася над брыдкім трупам здрадніка. Цёмна і душна было кругом яго, як у магіле, і страшны неўзмаготны сморад рассьцілаўся далёка ва ўсе бакі.

Калі ж разьвіднела і бура сьціхла, то вецер усё яшчэ калыхаў вісельніка, а людзі здалёку і са страхам пазіралі на яго і ўцякалі.

Пакінуты ўсімі, доўга вісеў труп. Чорная кроў капала зь яго на выпаўшыя вантробы. Кругом не засталося ніводнага жывога тварэньня, нават чэрві гадзіліся страшнага корму, нават мухі ня лёталі над сьпёкшайся крывёй яго цела.

Тады стада варон, ляцеўшае з Захаду, спусьцілася на галаву і голыя плечы Юды. Яны клявалі чорнымі дзюбамі, і вісельнік пад ударамі іхніх дзюбаў калыхаўся, як жывы. Яны клюлі яго жывот і пілі чорную кроў і брыдкі гной. І зваліўся на іх страшны праклён! Яны падняліся ў паветра і, мучаныя сударгамі, паляцелі над зямлёй. А як ляцелі яны, з горла іх капала на зямлю кроў і гной, бо не дапусьціў Бог, каб цела здрадніка стала іх кормам. Страшна крычучы, лятталі вароны, і куды падалі кроплі Юдавага гною, там нараджаўся здраднік свайго народу.

О, няшчасьце! На бедны край наш падалі кроплі Юдавай крыві густым дажджом. Няўжо ж ты, дарагая Айчына, вечна будзеш Юдавым полем!

Сьветазар Гурбан Ваянскі (З славацкай пераклаў Максім Багдановіч)

## Пра што пісалі даўней

У “аланецкіх епархіяльных ведамасьцях” (паўночная Расея) быў зьмешчаны ліст нейкага Публіўса Лентулуса, які ў часы Актавія Цэзара служыў праконсулам у іўдзейскіх краях. Ліст быў адрасаваны рымскім сенатарам. Пазьней яго знайшлі ў рымскіх летапісах. Аўтар паведамляе, што ў Йенскай бібліятэцы знаходзілася рукапісная Эванэлія на пергаменце XV ст. У пачатку гэтай Эванэліі быў напісаны тэкст лентулуса залатымі літарамі, а загаловак выглядаў так: TEMPORIRUS OCTAVIANI CAESARIS PUBLIUS LENTULUS PROCOS, IN PARTIBUS IUDEAE ET HERODIS REGIS, SENATORIBUS ROMANIS

HANE EPISTOLAM SCRIPSISSE FERTUR QUAE POSTEA AH EUTROPIO REPERTA EST IN ANNALIBUS ROMANORUM.

Прыводзім пераклад ліста Лентулуса: “Цяперашнім часам зьявіўся чалавек, – ён і зараз яшчэ жыве, – з высокімі якасьцямі, называе сябе Ісусам Хрыстом. Народ кажа, што ён магутны, па сваіх справах Прарок; вучні называюць Яго Сынам Божым. Ён ажыўляе мёртвых і вылечвае ад усялякай хваробы і немачы. Гэты чалавек высокага росту і стройны. Ягонае аблічча строгае, але вельмі выразнае, так што тыя, хто глядзіць на Яго, ня могуць не любіць Яго і адначасна не баяцца. Ягоныя русыя валасы апускаюцца гладкімі да нізу вушэй, і адтуль спадаюць хвалістымі локанамі прыемна на самыя плечы; яны разьдзелены на версе галавы як у назарэяў. Лоб гладкі і спакойны: аблічча зусім чыстае. Шчокі Яго пакрытыя нейкім чырвоным колерам зь невялікай цемнаватасьцю. Погляд мае прыемны і адкрыты. Нос і губы даволі правільныя. Барада даволі густая, аднолькавага колеру з валасамі на галаве, разьдзяляецца на дзьве часткі. Вочы блакітныя і надзвычай жывыя. У Ім прыкметна нешта грознае, калі ён робіць вымовы або папрокі, між тым як пакора і ласкавасьць спадарожнічаюць заўсёды Яго настаўленьням і навучаньнем. Ягонае аблічча мае дзівосную прыемнасьць, спалучаную з важнасьцю. Ніколі ня бачылі, каб Ён сьмяяўся, але бачылі, як плача. Стан Яго стройны, рукі доўгія, плечы прыгожыя. Гаворка важная і плаўная, але гаворыць мала. Нарэшце, бачыўшы Яго, нельга не прызнацца, што гэта адзін з найпрыгажэйшых мужчын.”

Аўтар публікацыі ў “Аланецкіх епархіяльных ведамасьцях” ставіцца з пэўным недаверам да гэтага тэксту, паведамляючы, што “ва ўсіх еўрапейскіх бібліятэках знаходзіцца сумніцельны ліст праконсула Публіуса Лентулуса, напісаны нібыта ім з Ерусаліма, калі Хрыстус меў 25 гадоў”; але ён (ліст) адзначаны ў ліку апакрыфічных шматлікімі вучонымі і дасьледчыкамі.

Тым часам аўтар публікацыі сьцьвярджае, што аналагічнае апісаньне вобліка Ісуса Хрыста падае каля 1350 года, царкоўны гісторык грэк Нікіфор Калліст, які меў у сябе “усе” дакументы, “захаваныя паданьнем ад тых часоў”.

Ларыса Геніюш:

## ДАЎНІНА
## (урыўкі з паэмы)

Гісторыю спраў вялікіх твораць людзі,
Якіх у нетрах ўзгадаваў народ.
Былі мы ад вякоў, Мы ёсьць, Мы будзем –
На спадчыне дзядоў сваіх – крывіцкі род!

..................................................................

Ў гадоў тумане велічнасьць ня гіне,
Мы зь ёю й сёньня, як шляхотны сплаў,
І сьніцца мне сьвятая Ефрасіньня
І слаўны Крыж, што Богша змайстраваў.
Ў зараньні дзеяў першыя сьвятыні,
І благачэсьце мудрае наўзьдзіў,
З князёў айчынных першыя Сьвятыя,
Якімі Полацак народы задзівіў.
У часе бітваў жорсткіх і крывавых,
У часе гутарак стралою і кап’ём,

Дзіця славянаў, юная Прадслава
Зышла на землю цёмную – сьвятлом!

.....................................................................

... Жыць, гэта значыць як сьлед працаваць,
Зжынаць, малаціць і веяць,
Дочак галубіць, сыноў гадаваць –
Нашчадкаў сваіх надзейных.
Вецер даўно разагнаў туманы,
Ўскружылі над дрэвамі галкі,
Схаваліся ў тоні глыбокай Дзьвіны
З прываблівым сьпевам русалкі.
Схаваўся, ня ходзе ўжо пушчай лясун:
Зло сьвету праменьня баіцца,
І вецер на дрэвах, на гусьлях бяз струн,
Ужо не пяе небыліцаў.
Сонца, малітву сваю табе шлюць
У пушчы ўсе твары жывыя,
Табе гэта песьні дзяўчаты пяюць,
Сплятаючы косы тугія.
Толькі і ты ўжо, Сонца, ня Бог,
І хоць для народу Ты тайна,
Ня ставяць стодзіваў больш у палёх
Табе, сьвет зямлі жыцьцядайны.
Вялікаю праўдаю стала любоў
І вера ў Хрыстовае слова,
Інакшая, чымсьці у нашых дзядоў,
Паганаў у пушчах суровых.
Ня слава, ня гонар – людзей забіваць,
Моц павялічваць з цярпеньняў,
Ворагаў нават належыць кахаць
Для Божага багаслаўленьня.

З цялесную сьмерцю жыцьця не канец,
Яно прадаўжаецца ў вечнасьць,
Бо так загадаў найсьвяцейшы Айцец
Зямлі і душы чалавечай.
Ня зло і насільле, а сеяць дабро;
Інакшая вартасьць багацьця.
Ня сіла, а попел нікчэмны яно
Перад ахвярай Распяцьця!
Ўсё тленна, дачасна. Гасьціна – жыцьцё,
А вечнасьць – дабра перамога.
Любоў – несьмяротнасьць. Яна адкрыцьцё
Нябеснае райскай дарогі.
Жывёле парывы свае заглушаць
Належыць жаданьнем зямнога,
А ў чалавеку ёсьць розум, душа,
Тварэц ён і частачка Бога!

Ня кланяцца моцным, а ціхіх любіць,
Да хворых ісьці з уцяшэньнем,
І хлебам надзённым усіх надзяліць,
Злагодзіць людзкое цярпеньне.
За добрае плоціць Бог людзям дабром,
Інакшай няма ў Яго знаці,
Як чыстыя сэрцы ў змаганьні са злом,
І людзі, як роўныя брацьця.
І людзі, як дзеці ў Бога Айца,
Пакорныя праўдзе Ягонай.
І роўныя ў строгім абліччы Тварца
Ад рызмана да кароны!

………………………………………………………

Полацак горда стаіць над Дзьвіной.
І землямі зноў авалодаў.
Вярнуўшыся ў град пераможны і свой,
Княжацкі род Рагвалодаў.
Ўжо сьпіць вечным сном Усяслаў Чарадзей,
Зямлі сваёй слава і стража,
Дзяржава ў руках яго верных дзяцей:
Барыс цяпер у Полацку княжыць.
Поруч пры ім на пасадзе браты
Ўсяславічы дружныя правяць,
І Сьвятаслаў, самы зь іх малады, –
Бацька князёўны Прадславы.

…………………………………………………………

Поўнач, далёка яшчэ не відна,
Сон вачанят не кранае.
Плешчыцца рыбай аб бераг Дзьвіна,
Ў полі вятры запяваюць.
Ня сьпіцца князёўне, хоць гоман замоўк,
Заціхлі і песьні, і гусьлі.
Адным толькі стражы кап'ём незнарок
Зазвоняць, ачнуцца прымусяць.
Ўжо князь спачывае на ложы са скур,
Княгіня бялявая побач,
Сьвет месячны шчодра кладзецца на мур,
І цені намечвае поўнач.
Князёўна ў белі, і косы, як лён,
За пояс сплываюць, бы хвалі.
Цьвярдзейшае сэрца ўзялі ў палон
Такія, калі б пакахалі.
Ня марыць дзяўчына пра солад сустрэч,
Пра шчасьце ля мужава боку,
Ня вабяць ёй сэрца ні рыцар, ні меч,
Князёўна ў малітве глыбокай.

То дух хрысьціянства на княжым двары
У цэрца пранік пераможна,
Бо змалку вучылі яе сьвятары
Пісьму і прамудрасьці Божай.
Сплывае кашуля на тонкім плячы,
Подых ветрыку косы цярэбіць,
А малітва, дзявочая просьба ў начы,
Ляціць ў неспакойнае неба.
І просіць Прадслава ласкава, каб Бог
Ад войнаў, ад мору, нягодаў
Сьвятыні, крывіцкія землі сьцярог,
Народ наш і род Рагвалодаў.

...........................................................

Патрэбна нямногае княжнай дачцы:
Пасьвечаны крыжык на грудзі.
Маленькая кельля ў ціхім Сяльцы,
Посах і тры аржаныя хлябцы, –
Служыць вечна Богу і людзям.

............................................................

Зьлітуйся, маці, мой бацька, даруй,
Долі насустрач, дзяўчаты.
Вякі адыходзяць ад матчыных рук,
Мяне лёс таксама сасватаў.
Мой суджанец слаўны – дарэмны ваш сум,
Ці ж большага маці зрадзіла?
Яму сваё сэрца ў далонях нясу
І буду служыць да магілы.
Доля мая ў Яго Божых руках,
Мілей за харому, карону
Пакутны, цярнёвы жыцьця Яго шлях,
І храм, дзе прыбытак Ягоны.
Розна на сьвеце людзі жывуць:
Той зброяй, той міласьцю Божай,
Шчасьце ня тое, што шчасьцем завуць,
А тое, што душу трывожыць.
Велічы ў сьвеце няма без ахвяр,
Жыцьця я свайго не шкадую.
Богу прынёсшы яго на алтар,
Я ў памяць упішуся людзкую.
У попел рассыплецца мораны дуб,
Скарбы сатлеюць па скрынях,
А я праз вякі, Палачанка, прайду,
Каб жыць для людзей між сьвятымі!
Бы дуб, наш хрышчоны разросься народ,
Быць слаўным яму і вялікім,
Камель для прыняцьця, стрываньня нягод,

А я – толькі дрэва галінка.
Мудрасьць і веліч праславіць нам час,
Зыскаць для зямлі нагароду.
Кожнай галінцы належыць у нас
Быць апорай крывіцкага роду!

.....................................................................

Сьветлая зорка на небе ўзышла.
Быў вечар, калі ў сьвятыню
Лёгкай хадой назаўсёды ўвайшла
Прадслава, цяпер Ефрасіньня.
Пакінула ўдома ўборы і бель,
Уцехі, вачэй насалоду.
Малітвы і мудрасьць – адзіны ўдзел
Чарніцы цяпер назаўсёды.
І звоняць у Полацку доўга званы,
Сьвяточна, ўрачыста за поўнач,
Гэта вітаюць і славяць яны
Ў мурах манастырскіх князёўну.
А вокал квітнее, бурліць веснаход,
Травы ўбіраюцца ў росы.
Схіляе з павагай галовы народ
Прад чынам Прадславы узьнёслым.

...........................................................................

З Прадславай той, хто думы ўзвысіў
І мудрасьці няземскай пералік.
Чарніца моліцца, Чарніца піша,
Каб праўды сьвет у край Яе пранік.
У полымя разыскрыла цяпельца,
І верай асьвяціла край бацькоў,
Нязгоды прыпыніла ціхім сэрцам,
Спыніла бой, каб не лілася кроў.
Прадаўні час і мір лунаў над краем.
На бразгат зброі – перакліч званоў.
Дык знача, там жыла ужо Сьвятая,
Што ненавісьць зьмяніла на любоў!

Ефрасіньня (сьвецкае імя Прадслава; нар. Каля 1120 г., пам. 23. 05. 1173), полацкая князёўна, ігуменьня манастыра Сьвятога Спаса ў Полацку, асьветніца, першая беларуская Сьвятая.

## ТРОХІ СЬМЕХУ
## У краіне бюракратаў

– Безабразія! – кажа расфуфыраная кабета дырэктару школы з ангельскай мовай навучаньня. – Мой Гогачка перэшол ужэ ф пяты клас і ні слова не знаіт па-англійскі. Вы забылі, наверна, што прынялі ево па званку таварышча Барахоўскава!

– Справа ў тым, – адказвае дырэктар, – што настаўнік, які вучыць Гогачку, сам ня ведае ні слова па-ангелійску.

– Дык звольніце яго! – абурылася кабета.

– Гэта немагчыма, – уздыхнуў дырэктар. – Ён таксама ўладкованы па званку таварыша Барахоўскага.

## Боты ціснуць

Неяк пасьля вайны стаіць дзядзька з пугай на рыначнай плошчы ў мястэчку, чытае аб'яву пра падаткі і мармыча сабе пад нос:

– Ціснуць, халера, ціснуць...

Ажно тут падскоквае нейкі ў фрэнчы:

– Чэво ціснут?

– Боты ціснуць, – кажа дзядзька.

– Какіе боты, ты жэ босы!

– Таму і босы, што ціснуць, – адказаў селянін.

## У лыжцы сьпяць

Прыехаў расеец у Варшаву. Пашвэндаўся па крамах, купіў гальштук і паехаў назад. А ў яго пытаюцца:

– Ну, как там полячишки?

– Глупый народ, – кажа расеец, – в ложке спят, а кровать на шее носят.

## Прыцярпеўся

Беларуса павешалі. Назаўтра прыйшлі здымаць. Абрэзалі вяроўку. Ажно шыбенік падняўся, пацёр шыю і пайшоў сабе. Тады каты, апамятаўшыся ад зьдзіўленьня, крычаць яму:

– Эй, ты, падаждзі! Как эта ты жывой?

– Ат, – кажа беларус, – спачатку балела, а потым нічога, прыцярпеўся.

----------------------

Б е л а р у с ы ! Гаварыце праўду адзін аднаму. Будзьце праўдзівыя. Цаніце праўду, любіце яе, шануйце, беражыце. Кажыце праўду на працы і ў сям'і. Памятайце, што праўдзівая моцная сям'я – грунт моцнага народа і здаровай нацыі. Хто хлусіць, той ня ведае справядлівасьці. Будзьце шчырыя ў думках і простыя ў жыцьці, беражыце дух свой і сумленьне сваё, шануйце сваю мову, веру і Бацькаўшчыну. Клапаціцеся пра дзяцей сваіх, каб будучыня наша стала прыўкрасная.

7-га Траўня:
СЬВЯТА ЦУДАТВОРНАГА
ВОБРАЗУ МАЦІ
БОЖАЕ ЖЫРОВІЦКАЕ



LAUDETUR JESUS CHRISTUS
СЛАВА ЕЗУСУ ХРЫСТУСУ

# ВЕРА

МЕНСК–СМАЛЕНСК № 1

Беларускі Каталіцкі часопіс

1988



Маці Божая Вострабрамская –
Заступніца і сімвал Беларусі.
/Гэты абраз – Маці Божая "Зьвеставаньне" – паходзіць з XVI стагодзьдзя. Напачатку ён быў праваслаўны, пасьля уніяцкі, затым каталіцкі. Сьвятая рэлiквія ўсяго беларускага Хрысьціянства/

## Аб'ява рэдакцыі!

Беларусы! Мы перажываем цяжкі для Веры і Бацькаўшчыны час. Каталіцызм на Беларусі памірае разам з касьцёламі, што выракліся нашай мовы і зямлі, што напаверку не любілі наш хрысьціянскі народ. Не ўсе такімі ёсьць і былі, але большасьць.

Вымірае і праваслаўе, а верхавіна яго, сьвятары – закасьнелі ў вялікадзяржаўным рускім шавінізме, не прызнаюць ні мовы нашай, ні гісторыі, ні будучыні.

Вялікадзяржаўныя бюракраты і функцыянеры глумяць нашую Веру, мову і культуру, зьнішчаюць беларускія школы, разбураюць нашую гістарычную спадчыну, прыроду, лясы, рэкі, касьцёлы і цэрквы, рыхтуюць новыя злачынствы.

Маўчаць у такіх абставінах ганебна. Трэба ратаваць духоўныя нацыянальныя каштоўнасьці, разьвіваць і прадаўжаць іх у нашым народзе. Народ – моцны духам і культурай. Задача нашага часопіса даваць інфармацыю пра рэлігійнае жыцьцё, рэлігійную гісторыю і рэлігійную культуру Беларусі.

## ЗЬВЕСТКІ ПРА ВЕРНІКАЎ

На прэс-канферэнцыі ў Маскве 24.04.1979 г. дырэктар Інстытуту навуковага атэізму Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС прафесар П.Курачкін сказаў: "Сацыялагічныя абсьледаваньні, праведзеныя ў шэрагу вобласьцяў, раёнаў і гарадоў РСФСР, Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Малдавіі, Прыбалтыкі паказваюць, што актыўных вернікаў, якія больш-менш рэгулярна посьцяць, ходзяць да споведзі, наведваюць бажніцы, каля 8-10% дарослага жыхарства".

Больш лік вернікаў у СССР падаў у 1975 годзе кандыдат філасофскіх навук Э.Лісаўцаў, інструктар аддзелу прапаганды ЦК КПСС, сябра рэдкалегіі часопісу "Навука і рэлігія", у сваёй брашуры "Рэлігія ў змаганьні ідэй". "Паводле зьвестак, – сказана ў брашуры Э.Лісаўцава, – атрыманых на аснове вывучэньня ўзроўню рэлігійнасьці ў цэлым шэрагу рэгіёнаў Савецкага Саюзу, можна зрабіць выснову, што пад уплывам рэлігіі ў той ці іншай ступені ў шмасобных рэгіёнах знаходзіцца амаль 25-30% дарослага жыхарства".

Колькасьць вернікаў у сьвеце: Венгрыя – 40%, ГДР – 60%, Югаславія – 35%, Польшча – 85%, Францыя – 30-35%, Англія – 55%, ЗША – 65-70%.

На Беларусі колькасьць вернікаў /1979 г./ у вёсцы – 39,6%, у горадзе 20%. Найбольш вернікаў у заходніх вобласьцях рэспублікі /больш за 60%/, менш у цэнтральных і усходніх вобласьцях /каля 26%/.

Цяпер на Беларусі 370 праваслаўных прыходаў з 383 сьвятарамі. Існуе таксама манастырская грамада ў Жыровіцкім манастыры, што каля Слоніма – 33 манашкі і 15 манахаў.

Апрача праваслаўных на Беларусі ёсьць амаль 65 каталіцкіх парафій; найвялікшая з іх [illegible] ў Менску. У рэспубліцы сёньня налічваецца больш за 1 мільён каталікоў /з 10 мільё-

▶2

## ПАЦЕРЫ КАТАЛІЦКІЯ

(Imprimatur. † Romualdus Archiepiskopus Vilnensis, Vilnae, 11.VII.1927, Nr. 1784)

### Знак крыжа сьвятога

† У імя Айца і Сына і Духа Сьвятога. Амін.

### Малітва Хрыстусовая

Ойча наш, каторы ёсьць на небе.
Сьвяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё. Будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі.
Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня. І адпусьці нам грахі нашыя, як і мы адпускаем вінаватым нашым.
І не ўвядзі нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Амін.

### Анельскае прывітаньне

Прывітана будзь, Марыя, поўная ласкі, Пан з Табою, багаслаўлёна Ты між жанчынамі і багаслаўлёны плод улоньня Твайго, Езус. Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас, грэшных, цяпер і ў часіну сьмерці нашай. Амін.

Мошчы Меркурыя ўрачыста паклалі ў саборнай царкве. Некаторыя легенды дадаюць, што ён нейкім цудоўным спосабам перадаў праз царкоўнага старасту, каб над ягоным грабам павесілі ягонае аружжа, бо калі будзе на прымаласьць служыць Смаленску цудоўнаю агародаю ад ворагаў.

Ужо ўсе меркурыеўскія легенды ёсьць шмат паэтычных дадаткаў і развіцьця вельмі моцнае нацыянальнае самаадчуваньне.

Год сьмерці сьв. Меркурыя прымеркаваны 1238, відаць, узяты з летапісу, як час нападу Батыя на Кіеў. А дзень сьмерці прымеркаваны той самы, у які сьвяткуецца памяць вялікамучаніка Меркурыя Кесарыйскага (з III ст.) — 24-га лістапада.

Акрамя тых супярэчнасьцяў у легендах, аб якіх ужо ўспаміналася прынагодна, яшчэ неабходна адзначыць, што ў іх ёсьць паважныя супярэчнасьці гістарычным фактам. Гісторыя не ведае паходу Батыя на Смаленск. Летапісы вельмі дакладна апісваюць паход Батыя, але нусім не ўспамінаюць аб тым, каб ён падыходзіў да Смаленску.

Меркурыевы легенды створаны ад 300 гадоў пасьля сьмерці сьвятога, дык не дзіва, што яны маюць шмат фантастычных дадаткаў. Асноваю да ўтварэньня легендаў безумоўна мусіў служыць мясцовы вусны пераказ аб Меркурыю, які меў верне гістарычнае праўды, бо-ж доўгія стагодзьдзі былі ў вялікай пашане ягоныя мошчы ў Смаленску і яшчэ ў XVI ст. смаляне ведалі сямейныя крывіа, дзе быў забіты Меркуры.

Фармаваліся ягоныя легенды на аснове вядомых уплываў аб сьвятых, якія несьлі сваю адсечаную галаву (сьв. Дзяніс Парыскі і інш), запазычаючы некаторыя падзеі з «Жыцьця Аляксея чалавека Божага», легенды аб Дзяніsiю Арэопагіце, а так-жа бяручы шмат з усходніх легендаў: аб жыцьці і сьмерці вялікамучаніка Меркурыя Кесарыйскага, які меў забіць Юліяна Адступніка і з легенды аб забойстве Батыя — наколькі ўсе гэтыя легенды былі ведамыя ў Смаленску.

Аз калі пачалі Меркурыя лічыць сьвятым, няма можна вес...к, бо не захавалася ніякага акту ў гэтай справе, ані навет ніякага ўспаміну, калі гэта адбылося. Саборы Праваслаўнае Царквы, якія займаліся справамі кананізацыі «рускіх сьвятых», аб сьвятым Меркурыю не ўспамінаюць. У сьвятцах ягонае імя зьяўляецца ўжанцы XV ст.

Служба сьв. Меркурыю мае аж 7 розных сьпісаў. Найстарэйшая служба напісана ў часе, калі смаленскім япіскапам быў Варсофоній (1509-1514) і вельмі праўдападобна, што гэта сам Варсофоній напісаў тую службу на аснове першых легендаў аб сьвятым.

Сьвятыя астанкі Меркурыя мелі перахоўвацца ў смаленскім Аўраамавым манастыры, дзе ў ягонае імя была асьвечана царква. Праўда часам ягоныя сьвятыя астанкі блыталі з астанкамі прападобнага Меркурыя так-жа смаленскага сьвятога і з таго-ж XIII ст., якія перахоўваліся ў Кіеве. Жалезны шалом і абутак сьв. Меркурыя ці першае сусьветнае вайны перахоўваліся ў саборнай рызьніцы.

Вялікая колькасьць легендаў аб сьвятым мучаніку Меркурыю выразна сьведчыць аб ягонай вялікай папулярнасьці ў народзе. Толькі патрэбна яшчэ ўважлівых студыяў, каб асоба гэтага мучаніка заззяла ў поўным сьвятле Богу на славу і людзтву на карысьць.

а. Л. Гарошка

(Перадрук з часопіса „Божым шляхам" з захаваньнем правапісу арыгінала).

Рэльефны абразок "Сьвятая Еўфрасіньня", зроблены за мяжой

<u>Пра што пісалі даўней</u>

У "Аланецкіх епархіяльных ведамасьцях" /паўночная Расія/ быў зьмешчаны ліст нейкага Публіуса Лентулуса, які ў часы Актавія Цэзара служыў праконсулам у Іудэйскіх краях. Ліст быў адрасаваны рымскім сенатарам. Пазьней яго знайшлі ў рымскіх летапісах. Аўтар паведамляе, што ў Ненскай бібліятэцы знаходзілася рукапісная Эвангелія на пергаменце XV стагодзьдзя. У пачатку гэтай Эвангеліі быў напісаны тэкст Лентулуса залатымі літарамі, а загаловак выглядаў так: TEMPORIBUS OCTAVIANI CAESARIS PUBLIUS LENTULUS PROCOS, IN PARTIBUS IUDEAE ET HERODIS REGIS, SENATORIBUS ROMANIS HANE EPISTOLAM SCRIPSISSE FERTUR QUAE POSTEA AH EUTROPIO REPERTA EST IN ANNALIBUS ROMANORUM.

Прыводзім пераклад ліста Лентулуса: "Цяперашнім часам зьявіўся чалавек, - ён і зараз яшчэ жыве, - з высокімі якасьцямі, называе сябе Іісусам Хрыстом. Народ кажа, што ён магутны, ва сваіх справах Прарок; вучні называюць яго Сынам Божым. Ён ажыўляе мёртвых і вылечвае ад усялякай хваробы і немачы. Гэты чалавек высокага росту і стройны. Ягонае аблічча строгае, але вельмі выразнае, так што тыя, хто глядзіць на яго, не могуць не любіць яго і адначасна не баяцца. Ягоныя русыя валасы апускаюцца гладкімі да вушэй, і адтуль спадаюць хвалістымі локанамі прыгожа на самыя плечы; яны разьдзелены на версе галавы як у назарэяў. Лоб гладкі і спакойны: аблічча зусім чыстае. Шчокі яго пакрытыя нейкім чырвоным колерам з невялікай цемнаватасьцю. Погляд мае прыемны і адкрыты. Нос і губы даволі правільныя. Барада даволі густая, аднолькавага колеру з валасамі на галаве, разьдзеленая на дзьве часткі. Вочы блакітныя і надзвычай жывыя. У ім прыкметна нешта грознае, калі ён робіць заўвагу або папрокі, між тым як пакора і ласкавасьць спадарожнічаюць выгодны яго наставленьням і павучаньням. Ягонае аблічча мае дзівосную прыемнасьць, спалучаную з важнасьцю. Ніхто не бачыў, каб ён сьмяяўся, але бачылі, як плача. Стан яго стройны, рукі доўгія, плечы прыгожыя. Гаворка важная і плаўная, але гаворыць мала. Наогул, бачыўшы яго, нельга не прызнаць, што гэта адзін з найпрыгажэйшых мужчын."

Аўтар публікацыі ў "Аланецкіх епархіяльных ведамасьцях" ставіцца з пэўным недаверам да гэтага тэксту, паведамляючы, што "ва ўсіх еўрапейскіх бібліятэках знаходзіцца сумнеўны ліст праконсула Публіуса Лентулуса, напісаны нібыта ім з Ерусаліма, калі Хрыстус меў 25 гадоў"; але ён /ліст/ азначаны ў ліку апакрыфічных шматлікімі вучонымі і дасьледчыкамі.

Тым часам аўтар публікацыі сьцьвярджае, што аналагічнае апісаньне вобліка Іісуса Хрыста падае каля 1350 года царкоўны гісторык грэк Нікіфор Калліст, які меў у сябе "ўсе" дакументы, "захаваныя паганамі ад тых часоў".

9

ет, вечым вы едзіце дарма наш народны хлеб?" І Вам, як і цяпер, пакажуць на дурнога Саўку, што набраўся "истинно-русского" духу, і, натуральна, "против белорусского языка". Вам прывядуць латоўны ідуцьмех сыноў нашай Бацькаўшчыны, абалваненых імі і раззбечаных, пакажуць на легіёны жабрачых і мамелюкаў, выхаваных і атручаных у іхніх школах-душагубках, у войску і інстытутах, на нашай зямлі, за нашыя сродкі, пры нашай маўклівай згодзе, і скажуць: "Вось ваш народ, ён з намі, супраць вас". І загадаюць, паказваючы на Вас: "Укрыжуйце іх!" Што і будзе зроблена пад сьмех прыйсуцьдаў. Будзьце пэўныя. Ахрышчаны беларус умее нішчыць сваіх.

То якія ж патрэбны Вам лічбы і прэцэдэнты, якія такія аргументы, калі размова павінна весьціся па сутнасьці, а не ў прыватнасьці, па справядлівасьці і па праве.

Таму не да розуму Вашага гэты зварот, не да логікі і нават не да сумленьня. Гэта ўсё ў Вас ёсьць і ўсё Вы ведаеце – і лічбы, і прэцэдэнты. Гэтае слова да Вашага ДУХУ.

Хай б'ецца ваша сэрца ўсё разам для Бацькаўшчыны, а не для амбіцыі, для нашага народа, а не для ўласнай шкі, для нашай сьветлай нацыянальнай духоўнай будучыні, а не для матэрыяльнага дабрабыту!

Пытаньне пра нашу беларускую мову, пра беларускую школу, пра беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы, пра нацыянальную асьвету і адукацыю, пра наша духоўнае нацыянальнае жыцьцё, пра нашу нацыянальную культуру павінна стаяць на зьезьдзе.

Народ наш яшчэ духоўна жывы і моцны, нягледзячы на адступнікаў і здраднікаў. Яны, здраднікі, – не прадукт нашага нацыянальнага жыцьця, а вынік трагедыі і хваробы, кароста, балячкі на здаровым целе. Прыйдзе час, і гэтыя блудныя дзеці вернуцца да ўлоньня маці-Бацькаўшчыны, сьвятой нашай, дарагой зямлі і моцнага племені.

Памятайма, хай не ўпадзе на нас першародны грэх. Не пакрыўдзім сябе нашчадкамі. Мы – беларуская інтэлігенцыя. То хай кожны з нас змога ў жыцьці сказаць так, як Купала:

Я аддаў народу,
Чым моц мая магла:
Звяў з путаў на свабоду,
Звяў з цемры да сьвятла.

Тадэвуш Рэйтан

ІІ траўня 1976 г., Менск

Праз пэўныя прычыны адозва Т.Рэйтана, відаць, не была распаўсюджана на зьезьдзе. Прынамсі чуткаў пра гэта не было. Сярод дэлегатаў разышоўся ліст ад Мацея Бурачка пра становішча беларускай мовы. Аднак ён не атрымаў шырокага розгаласу сярод пісьменьнікаў. Той зьезд, у 1976 годзе, быў бадай самы "лакейскі" за ўсю гісторыю пасьля 1956 года.

Тым часам "Ліст Бурачка" нейкім чынам трапіў да студэнтаў і яго нават вывесілі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на сьценкае інфармацыі і аб'яў. Ліст неўзабаве сарвалі, і тут жа сабралася экстранае пасяджэньне рэктарата і партбюро. Камуніставалі гэтае "надзвычайнае здарэньне". Найбольш усіх цікавіла, хто гэта мог напісаць такую "антисоветчину" і хто такі Мацей Бурачок. Выказвалі розныя меркаваньні. Нарэшце, калі ўсе здагадкі зайшлі ў тупік, выступіў, як распавядалі, сам рэктар Віктар Грамыка і сказаў: "В конце концов, кто бы ни был этот Бурачёк, ясно, что это негодяй похуже Солженицына".

Ніжэй падаю тэкст ліста ад Мацея Бурачка, распаўсюджанага сярод дэлегатаў.

ПАНОЎНЫМ ЯГАМОСЬЦЯМ
ПАЧЭСНЫМ ПІСЬМЕНЬНІКАМ
БЕЛАРУСКІМ

/Купрыяны. Лета 1976-га,
траўня ІІ-га дня/

Браткі-пісьменьнікі мілыя, дзеці Зямлі-маткі Беларусі нашай! Хачу пагаварыць з Вамі трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове.

Чытаў я ці мала старых папер і кніжках, па трыста, пяцьсот гадоў таму пісаных у зямлі нашай і мовай нашай чысьцюсенькай – і летапісы, і метрыкі, і Біблію Скарыны, і адзіны на ўсю Эўропу Статут наш слаўуты сапежыноскі...

... І думаў: Божа ж мой Божа, што ж мы такія за бясдольныя, што мову для нас сьвятую, Богам нам дадзеную, як і другім добрым людзям, так усе самі пусьцілі на зьдзек. А найперш паны нашы вялікія, што ўладу мелі, бараніць яе па закону павінны. Ды яны, ое, паны гэтыя, людзі высокія, падобна той старасьвецкай шляхце нашай, якая пасьля Вуніі бацькоўскую веру мяняла на срэбнікі, першыя выракліся роднай мовы.

Дык цяпер ужо, браткі, нават не тое. Бо і людзі нашы простыя, сьледам за панствам высокім, словам сваім грэбаваць пачалі, языки у роце выкручваюць, каб не сказаць па-свойму. А чаму?

А таму, браткі, што ў гаворцы нашай спрадвечнай бытцам больш і патрэбы няма. І адмаўляюць ёй, гаротнай, у жыцьцёвым праве на зямельцы нашай, і павыганялі ўжо яе зайздросьнікі і непрыяцелі з установаў дзяржаўных і з канцылярый судовых, і з нарад палітычных, і адусюль, адкуль толькі можна. І туляецца яна, бедная, сіратлівая па чужых халодных кутох: сям-там у газэтах-часопісах, трошкі на радыё, ды ў трох тэатрыках беларускіх, што ледзьве дыхаюць...

Ды й перакруцілі ж яе, перарабілі пад свой нялюбы розум дабрадзеі нашы. Ужо й словы беларускія спрадвечныя заменены на расейскія, і так яна ўжо зьнявечана дзеля невядомага ёй ўжытку, што і не разьбярэш, на якому гавораць.

Школкі ж нашы беларускія паўсюдна на зямлі нашай перароблены на расейскія, ды шырма так, што ў местах ды мястэчках ніводнай ужо не засталося. А дзеткі нашы не чуюць роднага слова ані ў хаце ад бацькоў вынішчаемых, ані ў садзе дзіцячым ад мамак і выхавацелек іхніх, ні ў школках тых перароблених ад настаўнікаў, ні ў універсітэтах ад прахвесараў, дзе мову нашу родную, як не раўнуючы, мёртвую лацінку, гадзіну-дзьве на тыдзень не хочучы выкладаюць.

А й памрэ беларус, то і надпіс на камені надмагільным па-расейску атрымае.

Браткі мілыя, пісьменьнікі!! Хачу спытаць Вас цяпер, хто ж чытаць будзе тое, што Вы пішаце, ды праз дзесятак гадкоў, ці мо праз дваццаць? Ці ж патрэбны будуць нашу з беларускаў кніжачкі Вашы цёмныя, у перакладах з расейскае мовы сьвет знаходзячыя? Ды й Вы самі ўраз з імі. Га?

Бо шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек перад скананьнем, каторому мову займе, а потым і зусім памерлі.

Дык ратуйма ж мову нашу беларускую, каб не ўмерлі!

Мацей Бурачок

Сьветлая зорка на неба ўзышла.
Быў вечар, калі у сьвятыню
Лёгкай хадой каляўсёны ўвайшла
Прадслава, цяпер Ефрасіньня.
Пакінула ўдома уборы і бель,
Уцехі, вачэй насалоду.
Малітвы і мудрасьць – адзіны удзел
Чарніцы цяпер назаўсёды.
І звоніць у Полацку доўга званы.
Сьвяточна, ўрачыста за поўнач,
Гэта вітаюць і славяць яны
У мурах манастырскіх князёўну.
А вокал квітнее, бурліць веснаход,
Травы ўбіраюцца ў росы.
Схіліце галовы ў пашане народ
Прад чынам Прадславы узьнёслым.
::::::::::::
З Прадславай той, хто думы ўзвысіў
І мудрасьці няземскай пераліў.
Чарніца малілася, Чарніца пісала,
Каб праўды сьвет у край Яе праніk.
У полымя разьлісціліся шпількі,
І верай асьвяціла край бацькоў,
Нязгоды прыпыніла ціхім сэрцам,
Спыніла бой, каб не ліхася кроў.
Праляўкі час і мір луна ў над краем,
Не бразгат зброі – пераклік званоў.
Дзік знача, там жыла ужо Сьвятая,
Што немалівасьць вылечыла на любоў!

Ефрасіньня /сьвецкае імя Прадслава; нар. каля 1120 г., пам. 23.05.1173 г./, полацкая князёўна, ігуменьня манастыра Сьвятога Спаса ў Полацку, асьветніца, першая беларуская Сьвятая.

## ТРОХІ СЬМЕХУ

### У краіне бюракратаў

– Безабразіе! – кажа расфуфыраная кабета дырэктару школы з англійскай мовай навучаньня.– Мой Гогачка перайшоў ужо ў пяты клас і ні слова не знаіт па англійскі. Вы забылі, наверна, што прыняліі ево па званку таварышча Бараховскава!

– Справа ў тым,– адказвае дырэктар,– што настаўнік, які вучыць Гогачку, сам не ведае ні слова па-англійску.

– Дык звольніце яго! – абурылася кабета.

– Гэта немагчыма, – уздыхнуў дырэктар, – ён таксама ўладкаваны па званку таварыша Бараховскага.

### Боты ціснуць

Неяк насьля вайны стаіць дзядзька з пугай на рыначнай плошчы ў мястэчку, чытае аб'яву пра падаткі і мармыча сабе пад нос:

– Ціснуць, халера, ціснуць ...

Ажно тут падскоквае нейкі ў фрэнчы:

– Чаво ціскут?

– Боты ціснуць, – кажа дзядзька.

– Какіе боты, ты ж босы!

– Таму і босы, што ціснуць, – адказаў селянін.

### У лыжцы сьпяць

Прыехаў расіец у Варшаву. Пашвэндаўся па крамах, купіў гальштук і паехаў назад. А ў яго і пытаюцца:

– Ну как там полячишки?

– Глупый народ, – кажа расіец, – в ложке спят, а кровать на шее носят.

### Прыцярпеўся

Беларуса павесілі. Назаўтра прыйшлі здымаць. Абрэзалі вяроўку. Ажно шыбеніk падняўся, пацір шыю і пайшоў сабе. Тады каты, апамятаўшыся ад зьдзіўленьня, крычаць яму:

– Эй, ты, паганец!! Как эта ты живой?

– Ат, – кажа беларус, – спачатку балела, а потым нічога, прыцярпеўся.

Б е л а р у с ы ! Гаварыце праўду адзін аднаму. Будзьце праўдзівыя. Цаніце праўду, любіце яе, шануйце, беражыце. Кажыце праўду на працы і ў сям'і. Памятайце, што праўдзівая моцная сям'я – грунт моцнага народа і здаровай нацыі. Хто хлусіць, той не ведае справядлівасьці. Будзьце шчырыя ў думках і простыя ў жыцьці, беражыце дух свой і сумленьне сваё, шануйце сваю мову, веру і Бацькаўшчыну. Клапаціцеся пра дзяцей сваіх, каб будучыня іхняя стала прыўкрасная.

7-га Мая:
**СЬВЯТА ЦУДАТВОРНАГА ВОБРАЗУ МАЦІ БОЖАЕ ЖЫРОВІЦКАЕ**

# Кнігі,
# выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. – Нью – Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). – Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр’ялы (1990 —III.1996). – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр’ялы (IV.1996—2002). – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр’ялы (2003--2010). – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). – Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
25. Зянон. Тэрра Дэй. – „Беларускія Ведамасьці”, – Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. – „Беларускія Ведамасьці”, – Warszawa, 2014.

27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). – Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.
28. Зянон. Палын-палын…– Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.
29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,
30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), „Беларускія Ведамасьці", 2017 г.
31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.
32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.
33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк – Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
34. Зянон Пазьняк. Краявід перад нізінай. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
35. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Разбурэньне. т. ІУ, – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2018 г.
36. Зянон Пазьняк: Беларуска-амэрыканская фатаграфія,1 – Новы Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2019 г.
37. Зянон. Інсургенты (п'есы). – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2020 г.
38. Зянон. ГРААЛЬ (п'есы). – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2023 г.
39 Зянон Пазьняк. САМВЫДАТ. – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2024 г.

# Зьмест

Зянон Станіслававіч Пазьняк

# С А М В Ы Д А Т

**(Беларускія падземныя выданьні 1970-1980 гг.)**

*Выданьне і друк коштам аўтара*
*Некамэрцыйнае выданьне*

Зянон Пазьняк. С А М В Ы Д А Т.
Тут тэксты падземнай самавыдавецкай публіцыстыкі аўтара, напісаныя ў 1970-1980 гг., у якіх распавядаецца пра русіфакацыю, разбурэньне і зьнішчэньне беларускай культуры, рэлігіі, нацыянальнай ідэнтычнасьці, соцыума і прыроды за часы брэжнеўскай рэакцыі ў пэрыяд маскоўска-савецкай акупацыі. Выданьне: «Беларускія Ведамасьці», Варшава, 2024 год, наклад 300 асобнікаў, фармат аркуша А4, (136 арк.), іл.
ISBN: 978-83-948192-6-2

Тэкст, вокладка, макет – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Кампутарны склад – *Робэрт Стаховіч*
Друк – JJS Group
Наклад – 300 асобнікаў
Папера – афсэтная
Фармат аркуша – А4
Фармат друку – А4
Ул. друк. Арк. – 136
Аддрукавана: ў красавіку 2024 г. у Варшаве

**ISBN: 978-83-948192-6-2**

